ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 105(5287)
Чацвер, 13 верасня 2001 года

Кошт у розніцу — 80 руб.

Вышэйшая школа

## Галоўны козыр Полацкага універсітэта

**— Скажыце, Эрнст Міхайлавіч, якія перамены адбыліся ў вашай навучальнай установе за апошнія гады ў сувязі з пераўтварэннем яе ва універсітэт?**

— Наш універсітэт адзіны ў краіне створаны на базе політэхнічнага інстытута, які існаваў да таго ўжо 25 гадоў і быў даволі моцнай тэхнічнай ВНУ. Адкрывалі інстытут у сувязі з будаўніцтвам буйнага прамысловага комплексу ў Наваполацку і актыўным развіццём горада. Тады ўдалося прыцягнуць сюды вельмі кваліфікаваныя кадры з расійскіх інстытуцкіх цэнтраў — Томска, Саратава, Свярдлоўска, Валгаграда, Калінінграда і інш. Такім чынам, інстытут развіваўся паспяхова. Ён заўсёды славіўся вялікім аб'ёмам навуковых даследаванняў, фундаментальнай падрыхтоўкай.

Але калі пачалася змена сацыяльна-палітычнай сістэмы і Беларусь стала самастойнай дзяржавай, натуральна, што спатрэбіліся (і ў першую чаргу для нашага рэгіёна) такія спецыялісты, якіх дагэтуль мы не рыхтавалі. Таму пры політэхнічным інстытуце былі адкрыты фінансава-эканамічны факультэт з чатырма спецыяльнасцямі, гісторыка-філалагічны факультэт са спецыяльнасцямі: гісторыя (бо тут Полацкая зямля), англійская, нямецкая і французская мовы. Наш інстытут быў першым (з новых), які адкрыў юрыдычны факультэт, і мы ўжо маем некалькі выпускаў.

Адкрываючы новыя спецыяльнасці, мы зноў запрасілі да сябе высокапрафесійныя кадры. Набыць кватэры для прафесараў і дацэнтаў нам дапамог горад. Частку кватэр ВНУ купіла сама, бо мы навучыліся зарабляць грошы — аказваем платныя паслугі (і не толькі насельніцтву, але і прамысловым прадпрыемствам), а таксама выконваем вялікі аб'ём гаспадарча-дагаворнай навукова-даследчай работы.

Усё гэта дазволіла ВНУ вельмі інтэнсіўна развівацца. І на добрай базе тэхнічных спецыяльнасцяў мы сумелі адкрыць спецыяльнасці гуманітарныя і эканамічныя.

**— Вы сказалі, што універсітэт сам зарабляе грошы. Якім чынам?**

— Ну, па-першае, у нас некалькі факультэтаў павышэння кваліфікацыі. Ёсць спецыяльныя курсы, прыкладам, для работнікаў "Белнафтахім", "Белтрансгаз". Наш універсітэт адзіны ў краіне, які мае нафтагазавыя спецыяльнасці. Раней іх навуковае забеспячэнне было ў Расіі. Цяпер жа мы арганізавалі яго ў Беларусі, і тут з'яўляемся манапалістамі. Натуральна, мы вельмі дапамагаем адпаведным галінам прамысловасці, у тым ліку і ў справе падрыхтоўкі спецыялістаў. Акрамя таго, у нас ёсць і іншыя факультэты павышэння кваліфікацыі — у галіне эканомікі, будаўніцтва і інш.



1 верасня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка пабываў у Полацкім дзяржаўным універсітэце, дзе азнаёміўся з выставай распрацовак і навуковых прац вучоных, наведаў бібліятэку, камп'ютэрную залу. У актавай зале універсітэта Аляксандр Лукашэнка прыняў удзел у свяце пасвячэння ў студэнты і перадаў сімвалічны ключ ведаў прадстаўнікам першакурснікаў. Прэзідэнт выступіў перад студэнтамі.

НА ЗДЫМКУ: падчас наведвання універсітэта.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.

*Полацкі дзяржаўны універсітэт пачаў сваю дзейнасць у 1968 годзе як Навапалацкі філіял Беларускага політэхнічнага інстытута. У 1974 годзе ён быў пераўтвораны ў Навапалацкі політэхнічны інстытут. А з 1993 года дзейнічае як класічны універсітэт.*

*Сёння адукацыйная структура Полацкага дзяржаўнага універсітэта складаецца з 11 факультэтаў, 40 кафедр, аспірантуры, магістратуры, Інстытута павышэння кваліфікацыі і ліцэя. Тут ажыццяўляецца шматузроўневая падрыхтоўка, якая ўключае дауніверсітэцкую, універсітэцкую і паслядыпломную адукацыю.*

*Падрыхтоўка кадраў з вышэйшай адукацыяй вядзецца па чатырох профілях (гуманітарны, педагагічны, эканамічны, тэхнічны) і 24 спецыяльнасцях. Універсітэт з'яўляецца адзінай ВНУ краіны, якая ажыццяўляе падрыхтоўку спецыялістаў па тэхналогіі перапрацоўкі нафты і газу, праектаванні, будаўніцтве і эксплуатацыі газа- і нафтаправодаў, геадэзіі, фотаграметрыі і геадэзічных кадастраў.*

*Сёння мы друкуем гутарку нашага карэспандэнта з рэктарам Полацкага дзяржаўнага універсітэта, доктарам тэхнічных навук, прафесарам Эрнстам Міхайлавічам Бабенкам.*

Мы робім многа інжынерных распрацовак для прадпрыемстваў, даходы ад якіх ідуць на рахунак універсітэта. Ну і, вядома ж, вядзём платнае навучанне студэнтаў, магістрантаў, аспірантаў.

**— Дзе павышаюць кваліфікацыю выкладчыкі і прафесары тых універсітэцкіх кафедр, якія забяспечваюць унікальныя для краіны спецыяльнасці?**

— У нас вельмі плённае супрацоўніцтва з Расійскім інстытутам нафты і газу імя Губкіна, і многія нашы выпускнікі вучацца там у аспірантуры. Наогул, з расійскімі ВНУ ў нас вельмі моцныя сувязі. Працуе Асацыяцыя славянскіх ВНУ — у першую чаргу на базе Полацкага дзяржаўнага універсітэта, Бранскага, Жытомірскага і Белградскага універсітэтаў. Добрыя сувязі ў нас і з Наўгародскім дзяржаўным універсітэтам, які мае тыя ж асаблівасці, што і наша ВНУ, а менавіта мае ў сваім складзе і тэхнічныя, і эканамічныя, і гуманітарныя спецыяльнасці. Я лічу, што гэта самая плённая мадэль ВНУ ў наш час. І свет рухаецца ў гэтым жа напрамку: класічныя універсітэты набліжаюцца да прамысловасці, а тэхнічныя ВНУ павышаюць сваю фундаментальнасць, набліжаючыся да ВНУ класічных.

**— Полацкі дзяржаўны універсітэт адзіны ў краіне рыхтуе спецыялістаў для нафтагазавай прамысловасці, а таксама ў галіне геадэзіі, фотаграметрыі і геадэзічных кадастраў. Але не менш значная яго дзейнасць і для рэгіёна. Наколькі мабільна рэагуе універсітэт на патрэбнасці народнай гаспадаркі Віцебскай вобласці?**

— Нашы выпускнікі, выкладчыкі замежных моў, працуюць ужо ў школах Віцебшчыны. Я лічу вельмі важным тое, што рэгіянальныя ВНУ могуць накіраваць спецыялістаў у самыя аддаленыя раёны. Бо ніколі Мінскі лінгвістычны універсітэт не здолее забяспечыць спецыялістамі, прыкладам, Міёрскі, Расонскі, Верхнядзвінскі раёны. Мы выдатна разумеем, што школе неабходны кваліфікаваныя выкладчыкі фізічнага выхавання, працоўнага навучання, інфарматыкі, будучай дысцыпліны "Тэхналогія", якая ўводзіцца ў сувязі з рэформай школы. Па ўсіх гэтых напрамках мы таксама адкрылі спецыяльнасці і рыхтуем спецыялістаў.

**— Пераўтварэнне політэхнічнага інстытута ва універсітэт мае на мэце пашырэнне навуковай дзейнасці. Як развіваецца ваша ВНУ ў гэтым напрамку?**

— Навука — гэта, можна сказаць, галоўны козыр Полацкага універсітэта. Мы ўжо гаварылі, што калі толькі стваралася наша ВНУ, сюды прыйшлі моцныя прафесары з вядомых навуковых школ, з буйных інстытуцкіх цэнтраў. І яны адразу заклалі тут традыцыі студэнцкай навукі, якія мы падтрымліваем і развіваем. Менавіта таму ўжо чатыры гады запар наша ВНУ па колькасці прэміраваных студэнцкіх работ на рэспубліканскіх конкурсах уваходзіць у пяцёрку лепшых. А калі б браліся не абсалютныя паказчыкі, а адносныя (прыкладам, колькасць работ на 100 студэнтаў), то мы займалі б самыя высокія месцы. Бо тут жыве дух даследаванняў.

А ўсё пачалося з політэхнічнага інстытута, бо тэхнічнае выкладанне высокага ўзроўню без навукі немагчыма. І гэта мы перанеслі і ў гуманітарную сферу.

**— Якімі павінны быць суадносіны фундаментальнасці і профільнасці ў ВНУ накшталт Полацкага дзяржаўнага універсітэта? Бо калі ўзяць курс на фундаментальнасць, то малады спецыяліст можа быць не гатовым да працы на вытворчасці. Калі ж рыхтаваць толькі да прафесіі, то гэта будзе не на карысць агульнаму адукацыйнаму ўзроўню, агульнай культуры чалавека...**

— Гэтыя пытанні вырашаюцца адукацыйнымі стандартамі і вучэбнымі планамі. І значная частка вучэбнага часу затрачваецца на фундаментальную падрыхтоўку. Улічваючы тое, што прафесійныя веды вельмі хутка абнаўляюцца, сучаснаму спецыялісту неабходны добрая фундаментальная падрыхтоўка і інавацыйнае мысленне, каб пастаянна шліфаваць свае прафесійныя веды.

Калі інстытут стаў універсітэтам, мы перагледзелі ўсе праграмы па матэматыцы, фізіцы, хіміі, інфарматыцы. Паглыбілі іх і павялічылі аб'ём гадзін. Што ж да ведаў прафесійных, то іх мы імкнемся ўвесь час абнаўляць.

**— Якім павінен быць сучасны спецыяліст з універсітэцкай адукацыяй? І як забяспечыць якасць падрыхтоўкі такога спецыяліста?**

— Ёсць тры асаблівасці сучаснага жыцця: мадэрнізацыя, глабалізацыя і сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі. Калі чалавек будзе пастаянна абнаўляць і свае веды, і свае тэхналогіі, і сваю справу — гэта першая рыса сучаснасці. Ён павінен ведаць, што адбываецца ў свеце, і быць наперадзе — на сусветным узроўні. А дасягнуць гэтага можа чалавек, які валодае сучаснымі камп'ютэрнымі тэхналогіямі і замежнымі мовамі і пастаянна павышае свой прафесійны ўзровень.

**— У Полацкім дзяржаўным універсітэце вядзецца падрыхтоўка магістраў па 17 спецыяльнасцях. Якое месца магістра сёння ў прамысловасці?**

— Пакуль гэтае пытанне не вырашана на дзяржаўным узроўні, хаця свае прапановы ўраду Міністэрства адукацыі ўнесла. Сваіх магістраў мы імкнемся пакінуць ва універсітэце, бо ведаем узровень іх падрыхтаванасці.

(Працяг на 2-й стар.)

Святы

## Якубу Коласу прысвячаецца

Адшумела яшчэ адно гарачае лета дзяцінства. Першага верасня пачаўся чарговы навучальны год: з новымі сябрамі і настаўнікамі, новымі клопатамі і вучнёўскімі перамогамі.

Радасць восеньскага свята разам з вучнямі мінскіх школ і навучэнцамі Мінскага педагагічнага каледжа № 1 раздзялілі супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, якія ўжо ў 16-ы раз (з 1985 года) наладзілі літаратурна-музычнае свята "Песняй вітаю я Вас!". Прысвячаецца яно традыцыйна Дню ведаў і прымяркоўваецца да Дзён славянскага пісьменства. Лейтматыў імпрэзы — жыццёвыя і творчыя варункі народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Не выпадкова было абрана і месца правядзення мерапрыемства — дзіцячы парк імя Максіма Горкага. Тут, на тэрыторыі сённяшняга парку, да Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся дом паэта, які згарэў у пачатку Вялікай Айчыннай вайны падчас моцнай нямецкай бамбёжкі. Загінулі хатнія рэчы і прыватная бібліятэка пісьменніка. Адзінае сведчанне таму сёння — невялічкая шыльда на будынку адміністрацыі парку.

1 верасня літаратары сустракаюцца з вучнёўскай моладдзю пад сцягамі Коласа яшчэ і таму, што Канстанцін Міхайлавіч быў настаўнікам, выкладчыкам роднай мовы і значную частку жыцця прысвяціў выхаванню дзяцей. Пачынаў ён сваю педагагічную кар'еру ў глухіх палескіх вёсках, потым была праца ў прыходскім вучылішчы ў Пінску, у рускіх школах на Куршчыне, у Белпедтэхнікуме, на рабфаку БДУ, ва універсітэце. Колькі добрых людзей, цудоўных, таленавітых настаўнікаў выхаваў наш паэт! Сярод яго вучняў былі і асобы творчыя, тыя, каму наканавана было працаваць на літаратурнай ніве: Максім Лужанін і Пятро Глебка, Станіслаў Шушкевіч і Паўлюк Трус і многія іншыя.

З прывітальным словам да тых, хто сядзе за вучнёўскія парты, звярнуліся сённяшнія беларускія літаратары: намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, галоўны рэдактар навукова-асветніцкага часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін, старшы навуковы супрацоўнік музея Коласа пісьменнік-гумарыст Іван Курбека. Вітаў вучнёўства і ганаровы госць свята доктар тэхнічных навук, малодшы сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч.

Поруч са знанымі майстрамі слова дэкламавалі свае творы і маладыя творцы — пачынаючыя паэткі з педкаледжа № 1. Аня Кананові кіруе літаратурным аб'яднаннем "Маладзічок", а Віта Курбека, нягледзячы на свой юны ўзрост, мае ўжо ўласную кнігу вершаў і казак "Тонкі голас сініцы". Дзяўчаты з уласцівым маладым імпэтам чыталі любімыя творы Коласа і ўласныя вершы.

Лагічным завяршэннем святочнай праграмы стала выступленне фальклорнага гурта супрацоўнікаў сталічнага дзіцячага садка № 266 пад кіраўніцтвам Вольгі Бароўскай.

**Ганна ЗАЙЦАВА.**



## Надрукуем у IV квартале на старонках "Настаўніцкай газеты"

У красавіку — маі 2001 г. у рэспубліцы прайшло арганізаванае Рэспубліканскім інстытутам кантролю ведаў цэнтралізаванае тэсціраванне выпускнікоў агульнаадукацыйных школ па беларускай і рускай мовах, матэматыцы, фізіцы. Многія з амаль 32000 вучняў, якія прынялі ўдзел у тэсціраванні, заявілі яго вынікі ў якасці адзнак выпускных экзаменаў у школах, або уступных экзаменаў у ВНУ, ССНУ, ПТВ.

З мэтай азнаямлення шырокай грамадскасці з новымі формамі кантролю ведаў, якія праходзяць эксперыментальнае апрабаванне ў Рэспубліцы Беларусь і Расійскай Федэрацыі, у кастрычніку 2001 года "Настаўніцкая газета" плануе апублікаваць у спецыяльным выпуску варыянты тэкставых заданняў, якія прапаноўваліся на цэнтралізаваным тэсціраванні 2001 года ў нашай краіне, а таксама варыянты адзінага Дзяржаўнага экзамена па біялогіі, грамадазнаўстве, рускай мове, фізіцы, матэматыцы, хіміі, які праводзіўся ў Расіі.

Прымаем заяўкі на спецвыпуск ад арганізацый і ўстаноў па адрасе: 220054 г.Мінск, вул.Захарава, 42, рэдакцыя "Настаўніцкай газеты". Кошт аднаго экзэмпляра — 320 рублёў. Даведкі па тэлефонах: 2-36-40-63, 2-36-53-22 (таксама факс).

## Еўрапейскі год моў

Міністэрства адукацыі, Цэнтр лінгвістычнай адукацыі МДЛУ праводзяць сярод вучняў школ, ліцэяў і гімназій конкурс на лепшае сачыненне на тэму "Замежная мова — мода ці неабходнасць?!". Сачыненне можа быць напісана як на замежнай мове, так і на роднай і прад'яўлена ў любой форме: апавяданне, верш і г.д. Аб'ём сачынення не больш як 750 слоў. Лепшыя работы будуць апублікаваны. Пераможцаў чакаюць узнагароды.

**Сачыненні прысылаць па адрасе:** 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 21, МДЛУ (Цэнтр лінгвістычнай адукацыі), тэл. 236-79-53.

***Апошні тэрмін падачы работ — 25.09.2001 г.***



## Клайшы прыраслі школаю

Шыкоўным школьным будынкам нядаўна ўпрыгожылася вёска Клайшы Воранаўскага раёна.

Тут прасторна, светла, утульна. У наяўнасці ўсе атрыбуты, неабходныя для школы сённяшняга дня: спартыўная зала, камп'ютэрны клас, сталоўка.

З радасцю, прыўзнятым настроем сюды штораніцы кіруюць амаль 150 дзяўчынак і хлопчыкаў — вучні Клайшанскай базавай школы.

**Канстанцін СТАНКЕВІЧ.**







НА ЗДЫМКАХ: новая школа ў Клайшы; урачысты момант — стужку разразаюць старшыня Гродзенскага аблвыканкама У.Я.Саўчанка (у цэнтры) і старшыня Воранаўскага райвыканкама В.І.Сцяпура (злева).

Фота аўтара.

Педагагічная майстэрня

Урок Янкі Лучыны

# Верны слуга і абаронца свайго народа

Перш-наперш выкладчыку варта паклапаціцца пра афармленне вучэбнага кабінета. Прапануем на цэнтры дошкі змясціць партрэт Янкі Лучыны, пажадана аздобіць яго беларускім ручніком. Па абодва бакі ад партрэта можна наладзіць невялікую выставу твораў пісьменніка, літаратуразнаўчых артыкулаў, што былі змешчаны ў ліпеньскіх (за 2001 год) газетах і часопісах да дня юбілею песняра. Побач будуць да месца і словы-эпіграф:

*Сонца навукі скрозь хмары цёмныя*
*Прагляне ясна над нашай нівою,*
*І будуць жыць дзеткі патомныя*
*Добраю доляю — доляй шчасліваю!..*
(*Я.Лучына. "Роднай старонцы".*)

Узяўшы ў рукі факсімільнае выданне ці фотаздымак тытульнага ліста зборніка Янкі Лучыны "Вязанка", настаўнік можа пачаць урок наступным аповедам:

Перад намі самая першая беларускамоўная кніжка мінулага XX стагоддзя. Яна была выдадзена гуртком студэнтаў-беларусаў у 1903 годзе ў Пецярбургу, амаль сто гадоў таму назад. На жаль, Янка Лучына, аўтар гэтага зборніка, пры жыцці так і не пабачыў ніводнай уласнай паэтычнай кнігі. Яго і польскамоўны зборнік пад назвай "Паэзія Яна Неслухоўскага" выйшлі толькі ў 1898 годзе — праз год пасля смерці паэта.

Літаратурную спадчыну Янкі Лучыны ацаніў у свой час Максім Багдановіч у артыкуле "І.Неслухоўскі". З удзячнасцю ўспамінаў яго і класік беларускай літаратуры Якуб Колас: "Яшчэ ў пачатковай школе выпадкова папалі да мяне ў рукапісе беларускія вершы, напісаныя Янкам Лучынай (як я потым даведаўся). Гэтыя вершы я вывучыў на памяць і любіў іх дэкламаваць". А ў прадмове да кнігі Янкі Лучыны "Творы", характарызуючы яго паэтычны вобраз Грышкі — эпічнай постаці беларускага лесніка, — наш сучасны літаратуразнаўца, лучынаўскі даследчык-бібліёграф Уладзімір Мархель напісаў наступнае: "Па маштабе і ўзроўні мастацкага абагульнення роўнага яму вобраза ні ў беларускай літаратуры, ні ў іншамоўнай літаратуры Беларусі другой паловы XIX стагоддзя няма. Таму "Паляўнічыя акварэлькі з Палесся" можна паставіць у такі гістарычна перспектыўны рад выдатных твораў, як "Песня пра зубра" М.Гусоўскага і "Пан Тадэвуш" А.Міцкевіча, якія прадвызначылі з'яўленне "энцыклапедыі беларускага жыцця" — "Новай зямлі" Я.Коласа".

Затым увагу школьнікаў выкладчык скіруе на партрэт Янкі Лучыны (можна знайсці ў газеце "Літаратура і мастацтва" № 27 за 6 ліпеня 2001 года, у часопісе "Роднае слова" № 6 за 1997 год і ў іншых ліпеньскіх перыядычных выданнях за гэты год). Настаўнік прапануе, асабліва старшакласнікам, выказацца наконт іх уласных уражанняў ад партрэта. Заслухаўшы некалькі выказванняў вучняў, выкладчык можа зачытаць апісанне Уладзіміра Мархеля: "Малады адкрыты твар з акуратнай густой барадою, высокім ілбом і разумнымі сумнавата-ўважлівымі вачыма за акулярамі ў таннай металічнай аправе... Нашае ўспрыманне, бачанне выявы Янкі Лучыны (Івана — Яна Неслухоўскага) скіравана ў мінулае, і нам, можа, няўцям, што гэта мінулае памкнёна да нас позіркам паэта. Ён глядзіць на нас адтуль, з свайго часу, і калі мы, вызваліўшыся ад недарэчнай мітусні і грамадскага вэрхалу, учытаемся ў яго вершы, мы адчуем у ім суразмоўніка, наблізімся да сумоўя душ, якое і ёсць непарыўнасць часу..."

Далей прапануем выкладчыку, улічыўшы ўзроставыя асаблівасці сваіх вучняў, адметнасці іх успрыняцця і чытацкую зацікаўленасць, абраць на першы ўрок толькі некаторыя старонкі з ніжэй пададзенага матэрыялу. Урок можна пабудаваць у форме вуснага часопіса ці літаратурнага мантажу. Пажадана, каб у яго правядзенні актыўна папрацавалі ў якасці артыстаў-чытальнікаў лепшыя вучні класа...

Паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду, герба "Дамброва".

Іван Неслухоўскі нарадзіўся 6 ліпеня 1851 года ў Мінску. Яго з'яўленне на белы свет якраз прыпала на два старажытныя святы: Купалля і Яна, таму бацькі і ахрысцілі хлопчыка Янкам, Іванам.

Род Неслухоўскіх — даволі старадаўні. І не проста Неслухоўскія, а Лучыўка-Неслухоўскія. Далёкі продак Яські (так у маленстве звалі Івана ў сям'і) Пшэбыслаў Дамброва ў сярэдзіне XIII стагоддзя праявіў мужнасць і гераізм у бітве з татара-манголамі, за што князь Конрад Мазавецкі і падараваў яму Цеханавіцкае графства з маёнткам Неслухі на Драгічынскай зямлі (зараз гэта Брэсцкая вобласць).

Ад назвы маёнтка Неслухі, відаць, і пайшло прозвішча Неслухоўскія, а ягоныя носьбіты свой родавы герб назвалі Дамброва. Продкі Івана Неслухоўскага займалі даволі высокія пасады. Напрыклад, прадзед быў ротмістрам Наваградскага ваяводства, дзед — межавы суддзя Слуцкага павета. А вось бацька Люцыян Юр'евіч Неслухоўскі, калі нарадзіўся Ясь, працаваў столаначальнікам у Мінскай палаце цывільнага суда, а пазней даслужыўся да чына калежскага асэсара, стаў сакратаром згаданай палаты. Бацька выпісваў шмат газет і часопісаў, цікавіўся літаратурай, мастацтвам і палітыкай. Не хаваў сваіх прагрэсіўных поглядаў і незадавальнення дзеяннямі пануючай царскай улады. За гэта на працягу чатырох гадоў за ім быў устаноўлены паліцэйскі нагляд.

Маці Антаніна Мікалаеўна, у дзявоцтве Лукашэвіч, выхоўвала дзяцей, вяла хатнюю гаспадарку.

Сям'я мела свой прыватны дом. У ім услед за Ясем нарадзіліся яшчэ тры браты (Антон, Юліян, Генрых) і дзве сястры (Антаніна-Аліна і Вікторыя). Дзеці жылі дружна, былі шчырымі і адкрытымі.

Неслухоўскія клапаціліся пра адукацыю сваіх дзяцей, імкнуліся вывесці іх у людзі. Ясь, напрыклад, спачатку выхоўваўся і вучыўся ў прыватным пансіёне. У дзевяцігадовым узросце, засумаваўшы па бацькоўскім доме, напісаў свой першы верш. Затым паступіў адразу ў трэці клас Мінскай класічнай гімназіі. Вучыўся добра і на пачатку наступнага навучальнага года быў узнагароджаны пахвальным лістом. Калі закончыў у 1870 годзе гімназію, узнікла сур'ёзная праблема: якую прафесію выбраць? Дзе атрымаць вышэйшую адукацыю? Бо ў Мінску і іншых буйных гарадах Беларусі ў другой палове XIX стагоддзя вышэйшых навучальных устаноў не было. Пасля доўгіх ваганняў паступіў на матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта.

Маленства Івана Неслухоўскага прыпала якраз на той час, калі ўсе імкнуліся да нейкіх значных сацыяльных перамен, асабліва — да адмены прыгоннага права, і ўвогуле спадзяваліся на грамадскія зрухі. У асяроддзі інтэлігенцыі ў 50 — 60-я гады XIX стагоддзя распаўсюджвалася думка, што менавіта асвета і тэхнічны прагрэс змогуць шмат чаго змяніць у грамадстве. Відаць, таму, аддаючы даніну модзе, Іван пакідае матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта і з восені 1871 года працягвае адукацыю ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце на механічным аддзяленні.

Шэсць гадоў вучобы ў Пецярбургу дабратворна паўплывалі на фарміраванне светапогляду і сацыяльна-грамадскіх ідэалаў маладога хлопца. Янка Лучына не сумняваўся, што прагрэс не абміне і яго Бацькаўшчыну:

*Паверма, шчасце заквітнее на зямлі,*
*Шумець там жыту,*
*дзе балоты век былі,*
*Палескай простай грамады*
*нашчадкі ў хатках*
*За стол шырокі сядуць*
*у бясэдзе братняй,*
*Нарэшце скажуць: "Шчасце і да нас прыйшло!*
*Паверма шчыра!"*

У 1877 годзе Іван Неслухоўскі атрымаў дыплом інжынера-тэхнолага і быў накіраваны ў Закаўказзе, дзе працаваў на чыгуначных складах у Тыфлісе (у Тбілісі) да канца 1879 года (паводле іншых звестак, не пацверджаных дакументальна, — да 1886 года).

Наязджаючы ў час водпуску да бацькоў у Мінск, паэт заўважае не толькі сляды цывілізацыі, але і шкоду, якую яна нясе самому чалавеку. Янка Лучына ўжо з болем глядзіць на свой край і прыродныя змены, што адбываюцца тут:

*Ды што такое?.. Дзе лясы?*
*Ці ж край той самы?*
*Хіба абшар вось той,*
*пустэльня тая з пнямі*
*І ёсць Кругліца, дзе быў*
*птушак спеў наўкол?..*
*Бярозы дзе шумелі,*
*хвоі і асіны?*
*А колькі ў гушчары*
*таілася дзічыны!*
*І ўсё ж яна! Хто*
*вынішчэнне ў край прынёс?*
*Пустэча, могільнік!..*

Аднойчы, у 1879 ці ў 1880 годзе (меркаванні розныя), прыехаўшы з Тыфліса да бацькоў у чарговы водпуск, Іван Люцыянавіч пайшоў на канцэрт, але вярнуцца дадому сам ужо не змог: яго разбіў паралюш. І трыццаці яшчэ не было, а ўжо — прыкуты да ложка. Толькі дзякуючы настойлівасці Неслухоўскі ўсё ж змог хадзіць, хоць і на мыліцах. Пазней нават і на працу ўладкаваўся ў Мінскае тэхнічнае бюро Лібава-Роменскай чыгункі.

Літаратурную дзейнасць Янка Лучына пачаў у 80-х гадах. Гэта быў час, калі пасля падаўлення паўстання 1863 года становішча беларускай мовы было даволі складанае. Яна знаходзілася ў заняпадзе, а таму бытавала найчасцей толькі ў гутарковай і зрэдку ў пісьмовай формах і зусім не мела магчымасці стаць мовай газет, часопісаў і кніг. На тэрыторыі Беларусі, а раней гэта была Расійская імперыя, панавала русіфікацыя, беларуская мова інтэлігенцыяй ігнаравалася, лічылася мужыцкай, таму беларускамоўныя творы ў паслярэформенны перыяд практычна не з'яўляліся. Толькі нямногія нацыянальна свядомыя асобы прымалі дзейсныя захады, каб ліквідаваць гэтую несправядлівасць. Да такіх асоб належаў і Янка Лучына. Пісаў ён пераважна па-польску і зрэдку — па-руску. Актыўна супрацоўнічаў у польскіх часопісах і газетах "Жыццё", "Край", "Калоссе" і ў рускай газеце "Минский листок". Паводле некаторых звестак, пісьменнік хацеў наладзіць у Мінску выданне і беларускай газеты, але царскія ўлады не далі на гэта дазволу. Пачаць пісаць па-беларуску змусіў паэта адзін выпадак — выступленне ўкраінскіх артыстаў, якія гастралявалі ў 1887 годзе ў Мінску. Асабліва захапіла яго іх паважлівае, беражлівае і ўлюбёнае стаўленне да роднай украінскай мовы. Унутраны голас не даваў Неслухоўскаму спакою: украінцы роднай мовы не цураюцца, а ты сам што зрабіў, каб любіць сваю? Таму пытанне, на якой мове сказаць вітальнае слова гасцям з Украіны, адразу адпала. Іван Люцыянавіч узяў чысты аркуш паперы, і на яго ляглі першыя беларускія радкі: "Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова". (Тут настаўнік ці добра падрыхтаваны вучань прачытае перад класам гэты паэтычны твор.)

Свае першыя беларускія вершы "Усёй трупе дабрадзея Старыцкага..." і "Дабрадзею артысту Манько" Янка Лучына не публікаваў. Як беларускі паэт ён дэбютаваў у друку ў 1889 годзе, калі змясціў у газеце "Минский листок" верш "Вясновай парой". Затым былі надрукаваны па-беларуску вершы "Зыходзіць сонца з-за гары...", "Вясна", "Роднай старонцы", "Пакуль новы год настане на свеце...", "Пагудка", "Што птушкі казалі", "Каршун", "Сівер", "Што думае Янка, везучы дровы ў горад", а таксама "Стары мяснік" — беларускі варыянт урыўка з яго польскамоўнай паэмы "Паляўнічыя акварэлькі з Палесся". Гэтым самым пісьменнік паклаў пачатак вяртанню беларускага слова да друкаванага жыцця. Інакш як грамадзянскім подзвігам гэта не назавеш.

Памёр паэт 16 ліпеня 1897 года. Пражыў усяго сорак шэсць гадоў. І толькі адзінаццаць з іх былі адпушчаны на актыўную творчасць.

Янка Лучына як паэт вырас і сфарміраваўся на традыцыях беларускай народнай творчасці, прагрэсіўнай польскай і рускай літаратуры. Часта звяртаўся да творчай спадчыны паэта-дэмакрата Уладзіміра Сыракомлі, вершы якога перакладаў на беларускую мову, быў знаёмы і перапісваўся з польскай паэткай Марыяй Канапніцкай.

У сваёй лірыцы Янка Лучына выступаў як выразнік дум і настрояў свайго народа, як верны яго слуга і абаронца. Асаблівасцю яго вершаў з'яўляецца імкненне зазірнуць у душу простага чалавека, раскрыць яго пачуцці і перажыванні. Характэрны прыклад — верш "Што думае Янка, везучы дровы ў горад".

Лучына — вялікі патрыёт радзімы. З болем у душы ён гаворыць пра абяздоленасць народа, беднасць сваёй старонкі і паказвае глыбокую прывязанасць простага чалавека да бацькаўшчыны. Такія вершы, як "Роднай старонцы" і "Пагудка", складаюць значную частку яго лірыкі на патрыятычную тэму.

Лёс верша "Роднай старонцы" складваўся вельмі шчасліва. За подпісам Н-скій ён быў надрукаваны ў 1892 годзе ў "Северо-Западном календаре на 1892 год". Пецярбургская суполка "Загляне сонца і ў наша аконца" распачала ў 1906 годзе выданне першых беларускіх паштовак. Адна з іх прысвячалася і Янку Лучыну. На ёй разам з партрэтам песняра былі змешчаны радкі яго твора. У 1919 годзе славуты мастак Язэп Драздовіч паводле Лучынавага верша "Роднай старонцы" стварыў цікавую графічную кампазіцыю. (Праз эпідыяскоп выкладчык можа прадэманстраваць згаданую паштоўку і кампазіцыю, што змешчаны ў часопісе "Роднае слова", № 7 за 1997 год, на с. 182-183).

Паводле слоў Алега Лойкі, верш Янкі Лучыны "Роднай старонцы" з'яўляецца "найбольш папулярным творам. Гэта вяршыня яго лірыкі. Янка Лучына як паэт, дэмакрат і патрыёт выказаўся тут найпаўней..."

Затым настаўнік прапануе класу паслухаць выразнае чытанне верша "Роднай старонцы", падрыхтаванае чытальнікам на памяць.

Закончыць урок пажадана рэфлексіяй, падагульняючым адказам на пытанне "Якія ўрокі можна ўзяць нашаму пакаленню з жыцця і творчасці прадвесніка адраджэння — Янкі Лучыны?"

**Мікалай ЖУКОВІЧ,**
**дырэктар сярэдняй школы № 1 Бярозы Брэсцкай вобласці.**

Светапогляд: рэаліі і перспектывы

# Энцыклапедыя нашай цывілізацыі,

## альбо Яшчэ раз аб рэлігіязнаўстве

***Праблемы выкладання рэлігіязнаўства ўжо неаднаразова закраналіся на старонках "Настаўніцкай газеты". Але гэты прадмет і сёння ў школе з'яўляецца больш экзотыкай, чым звычайнай з'явай. Хацелася б выказаць некалькі сваіх меркаванняў на гэты конт, тым больш, што маю да гэтага прадмета пэўнае дачыненне.***

Рэлігіязнаўства як навука ўзнікла ў другой палове XIX ст., але першапачатковыя яго вытокі хаваюцца ў філасофскіх трактатах старажытнага свету і філасофіі рэлігіі XVII ст. Сапраўднымі заснавальнікамі рэлігіязнаўства лічаць М.Мюлера, Э.Тэйлара, Д.Фрэзера, Шантэпі дэ ла Сос і К.Тыле. Гэтая навука вывучае рэлігію як асобную сферу духоўнай культуры чалавецтва, яе сутнасць, узнікненне, значэнне ў грамадскім развіцці.

Чаму рэлігіязнаўства павінна вывучацца ў школе? На маю думку, на гэта ёсць некалькі прычын.

*Па-першае*, у апошнія гады цікавасць да ўсяго, звязанага з рэлігіяй, павялічвалася як сярод дарослага насельніцтва, так і сярод вучнёўскай моладзі. Сацыялагічныя даследаванні паказваюць, што значная колькасць вучняў лічыць сябе вернікамі. І хаця па асабістай самаацэнцы рэспандэнтамі сваёй рэлігійнасці не заўсёды можна аб'ектыўна вызначыць светапоглядную пазіцыю, пэўныя высновы тым не менш зрабіць можна: на працягу апошніх 30-35 гадоў назіраецца паступовае пашырэнне рэлігійнасці сярод вучнёўскай моладзі.

*Па-другое*, для сучаснага адукаванага чалавека проста неабходна веданне асноў веравызнанняў і гісторыі рэлігій, як і веданне галоўных ідэй вальнадумства. Нельга правільна ўспрымаць творы архітэктуры, музыкі, літаратуры, кіно, выяўленчага мастацтва, звязаныя з рэлігійнымі сімваламі, не маючы адпаведных ведаў.

*Па-трэцяе*, светапоглядная арыентацыя вучнёўскай моладзі мае даволі стракатую карціну. Многія нашы выхаванцы вераць у хрысціянскага Бога і адначасова — у слушнасць некаторых элементаў вучэнняў, якія прыйшлі з усходніх і язычніцкіх рэлігій, неакультаў, акультызму.

*Па-чацвёртае*, існуе рэальная пагроза ўцягнення вучнёўскай моладзі ў дэструктыўныя секты і іншыя небяспечныя для грамадства "новыя духоўныя ўтварэнні". Сумныя вынікі такіх з'яў у Беларусі ўжо вядомыя. Таму неабходна загадзя расказаць вучням пра гэтыя секты.

*Па-пятае*, у галіне рэлігійнай асветы моладзі складваецца трывожная сітуацыя, калі ролю настаўнікаў бяруць на сябе ў асноўным замежныя прапаведнікі. Яны адкрыта (а калі-нікалі і завуаліравана) навязваюць сваю веру (рэлігію), якая, як правіла, ідзе ўразрэз з традыцыйнай.

Неабходна ўлічваць, што дзяржаўная сістэма адукацыі і выхавання ў Рэспубліцы Беларусь носіць свецкі характар і не ставіць мэтай фарміраванне тых або іншых адносін да рэлігіі. Дзяржаўная школа аддзелена ад царквы і нейтральная як да рэлігіі, так і да атэізму. У ёй недапушчальна навязванне рэлігійнага або атэістычнага светаразумення, якіх-небудзь догмаў і рытуалаў. Кожнаму вучню павінна гарантавацца магчымасць светапогляднага самавызначэння, неабходнага для свабоднага станаўлення асобы. У дэмакратычным грамадстве свецкая школа з'яўляецца неабходнай умовай забеспячэння свабоды сумлення грамадзян. Таму яна павінна знаёміць вучняў з рознымі відамі рэлігій, але не навязваць іх. Без гэтых ведаў вучні не змогуць зрабіць асэнсаваны светапоглядны выбар.

* * *

Выкладанне рэлігіязнаўчых дысцыплін у сучасных сацыяльных рэаліях павінна падпарадкоўвацца **пэўным метадалагічным прынцыпам**. Адзін з іх — **антрапалагічны** — павінен даць адказ на пытанне: што ёсць чалавек? Пазнанне чалавека дапамагае адкрыць таямніцы ва ўсіх сферах быцця, яго гісторыі, развіцця, сутнасці, а таксама — у сферы рэлігіі.

**Прынцып аксіялагічнага падыходу** павінен забяспечыць плюралізм светапоглядаў. Светапогляд нельга зводзіць да той ці іншай каштоўнаснай пазіцыі. Праз аксіялагічны падыход малады чалавек ставіць і вырашае важныя для сябе праблемы лёсавырашальнага і сэнсажыццёвага значэння: асэнсоўвае гістарычныя з'явы, накіраванасць і аснову пазнання, сэнс жыцця, чалавечую дзейнасць, узаемаадносіны асобы і грамадства, грамадства і рэлігіі і г.д.

Пры выкладанні рэлігіязнаўчых пытанняў настаўнік павінен быць нейтральным і не навязваць тыя ці іншыя рэлігійныя арыентацыі ці светапоглядныя схільнасці. З другога боку, на занятках павінна фарміравацца талерантнасць, верацярпімасць, калі плюралізм светапоглядаў — галоўная ўмова дыялогу. У сувязі з гэтым усе пытанні гісторыі рэлігіі, філасофіі, культуры павінны выкладацца аб'ектыўна і ў поўным аб'ёме, а не шляхам адбору асобных фактаў, трактаванне якіх можа сказіць ісціну. Па гэтым пытанні расійскі рэлігіязнаўца М.Г.Пісманік пісаў: *"Для духоўнага ўзбагачэння вучняў значна болей важныя сацыяльна-маральныя аспекты, звесткі аб уздзеянні рэлігіі на культуру, мараль, быт, традыцыі, звычаі і духоўнасць народаў перш-наперш сваёй Айчыны. На наш погляд, гэтае патрабаванне — адно з найважнейшых па сваёй метадалагічнай значнасці"*.

**Прынцып праксіялагічнага падыходу** садзейнічае сувязі навучання і выхавання з жыццём, мае непасрэдны выхад на чалавека з яго духоўным пошукам, самаадчуваннем, самаразуменнем, самарэалізацыяй, прадугледжвае авалоданне ведамі пра рэлігіі ў сучасным свеце, рэлігійную сітуацыю ў дзяржаве, асаблівасці сучаснага канфесіянальнага жыцця і г.д. Вельмі важна, каб выкладанне рэлігіязнаўчых дысцыплін абапіралася на канкрэтна-сацыялагічныя фактары, што дасць магчымасць удасканальваць змест, формы і метады выкладання, падмацоўваць вучэбны матэрыял рэальнымі лічбамі.

**Культуралагічны падыход** у рэлігіязнаўстве забяспечвае сувязь культуры і рэлігіі, таму што рэлігія — экзатычны, шматаблічны феномен культуры, а яе гісторыя ўжо сама па сабе — маляўнічы пласт агульначалавечай гісторыі. Таму рэлігіязнаўства ёсць самапазнанне культуры. Культура і рэлігія з'яднаны з самага пачатку гісторыі чалавецтва. Аж да позняга сярэдневечча рэлігія ахоплівала ўсе культурныя сферы. Да нашых дзён рэлігійны пачатак — найбольш трывалы для нацыянальных культур народаў свету.

Важную ролю пры вывучэнні рэлігіязнаўства мае **герменеўтычны падыход**. Герменеўтыка — мастацтва тлумачэння тэкстаў, вучэнне аб прынцыпах іх інтэрпрэтацый. Несумненна, рэлігіязнаўства павінна грунтавацца на вывучэнні класічных тэкстаў, прац тэолагаў, сучасных вучоных. Без тлумачэння зместу крыніц немагчыма правільнае фарміраванне ўяўлення аб прадмеце вывучэння. Сёння літаратуры па рэлігіязнаўстве яшчэ недастаткова. Атэістычныя і рэлігійна-апалагетычныя кнігі для гэтай працы — непрыдатныя. Місіянерскія выданні прыезджых прапаведнікаў, каментатарскія сачыненні багасловаў таксама будуць шкоднымі ў свецкай школе. З Бібліяй, Каранам і іншымі кнігамі лепш пазнаёміцца ў арыгінале і выкарыстоўваць у сваёй рабоце.

У школьным класе практычна ніколі не бывае адзінства светапоглядаў. У сувязі з гэтым выкладчык павінен улічваць усю палітру светапоглядных арыентацый. Але для таго, каб ведаць яе, педагог павінен трымаць руку на пульсе жыцця як усяго класа, так і асобных вучняў.

* * *

Пры выкладанні рэлігіязнаўства, як і іншай сацыяльна-гуманітарнай дысцыпліны, прадугледжваецца выхаваўчая накіраванасць. "Аб'ектыўнай асновай апошняй з'яўляецца заканамернасць адзінства навучання і выхавання, якое праяўляецца ў дыялектычным узаемапранікненні першага ў другое. Пры гэтым існуе нейкі механізм светапогляднага выхавання: выхаваўчая накіраванасць і рэалізуемы ёю выхаваўчы патэнцыял, закладзены ў змест пэўнай навучальнай дысцыпліны, у даным выпадку — рэлігіязнаўства", — піша прафесар М.Я.Ленсу. Пры выкладанні гэтага прадмета мэтазгодна праводзіць не прамое навучанне, а як мага больш дакладнае інфармаванне слухачоў пра тыя маральныя прынцыпы і нормы, якія ёсць у розных рэлігіях, даючы падлеткам магчымасць самім зрабіць патрэбныя высновы. Трэба, каб вучні спачатку зразумелі спецыфіку станаў, у тым ліку і маральных, пэўнай рэлігіі і на гэтай аснове выпрацавалі свае адносіны да іх.

Некаторыя веды, што атрымліваюць вучні ў школе, дазваляюць мець альтэрнатыўныя меркаванні, і педагогу трэба звярнуць увагу на гэта. Самім маладым людзям звычайна цяжка выпрацаваць самастойнае меркаванне ў падобнай сітуацыі. У сувязі з гэтым трэба азнаёміць вучняў з гэтымі альтэрнатывамі і даць сваю ацэнку, без навязвання ім свайго пункту гледжання.

Беларусь спакон вякоў была хрысціянскай дзяржавай. Таму важна прадэманстраваць спецыфіку хрысціянскай маралі, але не з мэтай рэлігійнай прапаганды, а для таго, каб вучні зразумелі сутнасць тых маральных норм, якімі яны карыстаюцца. Задача выкладчыка — акцэнтаваць увагу на тым, што аб'ядноўвае калектыў вучняў паміж сабой і кожнага з усімі. Гэтым павінны стаць агульначалавечыя каштоўнасці і ідэалы, якія вызначаюць нормы маралі, культурную спадчыну. Пры гэтым трэба шырока ўкараняць актыўныя формы і метады навучання для таго, каб кожны змог выказаць свой пункт гледжання пры абмеркаванні светапоглядных, канфесійных пытанняў. Усведамленне асобай неабходнасці прыняцця агульначалавечых каштоўнасцей — значны поспех педагога ў выхаванні.

**Мікалай СІНКЕВІЧ.**

Каштоўныя іконы ад імя Прэзідэнта краіны ўручыў 5 верасня вернікам Свята-Уваскрэсенскага, Свята-Нікольскага гарнізонных храмаў і Свята-Сімяонаўскага кафедральнага сабора ў Брэсце Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

Мітрапаліт Філарэт з'яўляецца адным з ініцыятараў устанаўлення ў нашай рэспубліцы прэстыжнай прэміі "За духоўнае адраджэнне". Калектыву музычнага каледжа ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі падораны новы канцэртны раяль.

НА ЗДЫМКАХ: Свята-Уваскрэсенскі храм-помнік атрымлівае ікону Уваскрэсення Хрыстова; Брэсцкаму музычнаму каледжу падараваны раяль.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Выставы

# Глабалізацыя па-мастацку



*4 верасня ў мінскім Палацы мастацтваў адкрылася выстава жывапісу і графікі "Майстар", у якой прымаюць удзел мастакі з Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы і ЗША.*

Міжнародная выстава жывапісу і графікі "Майстар" праходзіць у рамках святкавання 80-годдзя з дня заснавання Беларускага дзяржаўнага універсітэта. І гэты факт можна па-рознаму інтэрпрэтаваць у самых розных аспектах: гістарычным, культурна-адукацыйным, міжнародным і нават камерцыйным: універсітэт — як гістарычна ўстойлівы культурна-адукацыйны асяродак краіны; універсітэт — як найгалоўнейшы прапагандыст ці, кажучы сённяшняй моваю, прамоўтэр культуры ў сучасным свеце; універсітэт — як спажывальнік, апякун (фундатар) найперспектыўнейшых мастацкіх праектаў. Гэтак, зрэшты, калі ўжо паглыбляцца ў гісторыю, было заўсёды. Гэтак, дзякуй Богу, адбываецца і цяпер, на пачатку новага тысячагоддзя, у юбілейны для найбуйнейшай беларускай альма-матэр год...

Арганізатар выставы "Майстар" — аднайменнае міжнароднае грамадскае аб'яднанне мастакоў і мастацтвазнаўцаў, у прыватнасці ягоны прэзідэнт Сяргей Крыштаповіч і сакратар Ала Нароўская. Істотную дапамогу "Майстру" ў наладжванні выставы, апроч БДУ, аказалі Амбасада Злучаных Штатаў Амерыкі, Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр, ААА "Фелікс", СП "SEN", Цэнтр італьянскай мэблі "Аладзін", салон моды "GAL'S" і шэраг іншых арганізацый, устаноў і фірм.

Такая магутная падтрымка праекта з боку спонсараў падаецца цалкам заканамернай і зразумелай, бо за галоўную місію сваёй дзейнасці аб'яднанне "Майстар" узяло не больш не менш як "садзейнічанне развіццю творчага дыялогу мастакоў Еўропы і ЗША, спрыянне ўзаемаразуменню культур усяго свету". Адпаведныя і мэты: стварыць культурную сетку "Майстра" па ўсім свеце, арганізоўваць і ладзіць рэспубліканскія і міжнародныя выставы, майстар-класы, пленэры і сімпозіумы, падтрымліваць новыя таленты, выдаваць часопіс "Майстар" (у якім будуць асвятляцца праблемы выяўленчага мастацтва), садзейнічаць дэмакратызацыі грамадства шляхам актывізацыі творчага жыцця.

А што ж наконт эстэтычнай канцэпцыі "Майстра"? На гэтае пытанне прэзідэнт аб'яднання Сяргей Крыштаповіч адказвае так:

"Спакон веку майстар фарміруе час у вобразах і сімвалах той эпохі, у якой яму наканавана жыць. Кожная эпоха ставіць перад майстрам новую задачу, якую ён абавязаны вырашыць як умову для нараджэння новага творцы. Той, хто прыйдзе на змену, павінен узняцца вышэй у сваёй творчасці і здолець адказаць на пытанне: што патрабуе ад мяне мой час, якую ідэю, пластыку, форму?

Наша яркая індывідуальнасць, самабытнасць прадвызначаны нашымі папярэднікамі, як і яны, мы адлюстроўваем у сваёй творчасці адну з граняў велічы свету. Сёння міжнароднае аб'яднанне "Майстар" сабрала мастакоў з розных краін. Творы іх сведчаць аб самабытнасці, індывідуальнасці, аб вялікай любові да Мастацтва. Але ў той жа час ёсць нешта глабальнае і значнае, што аб'ядноўвае нас — гэта адзінства разнастайнасці, гэта пераемнасць ідэяў Вялікіх Майстроў".

А віцэ-прэзідэнт Мікалай Паграноўскі дадае:

"Мастацтва сяброў міжнароднага творчага аб'яднання "Майстар" можна смела аднесці да сфер класічных узораў авангарднай культры. Мастакоў гэтага накірунку мала задавальняе імітацыя рэальнага свету, больш за тое, і ступень імітацыі ўжо амаль вычарпала сябе.

Іх эстэтычнае крэда — трымацца сваёй уласнай мадэлі свету, дзе знікаюць межы супрацьстаяння рэальнасці і вымыслу. У падобных творах мы назіраем своеасаблівыя метамарфозы, народжаныя з неабсяжнага акіяна міфаў, сімвалаў, легенд... Мастакі аб'яднання "Майстар" узбагачаюць выяўленчыя сродкі постмадэрнізму ўласным бачаннем свету".

Што ж, магчыма, крыху і няспіпла (так — пра саміх сябе), але, як сведчыць выстава "Майстар", — зусім праўдзіва. У ёй удзельнічае 21 мастак з Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы і ЗША. І хоць ці не ў кожнага з іх за плячыма ўжо не адна персанальная выстава ў самых розных краінах свету, шмат якія з імёнаў, прадстаўленых сёння ў Палацы мастацтваў, несумненна, стануць сапраўдным адкрыццём для аматараў авангарднага мастацтва.

Падчас цырымоніі адкрыцця выставы амбасадар Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі Майкл Козак адзначыў, што для трох амерыканскіх мастакоў — Крыстафера Навіцкага, Джэйсана Урбана і Натана Хэнлейна — гэта вялікі гонар — выстаўляцца разам з таленавітымі беларускімі творцамі. Прарэктар БДУ Алег Яноўскі сказаў, што карціны, прадстаўленыя на выставе, нібыта кудысь запрашаюць гледача — за межы фізічнай плошчы саміх палотнаў, за межы той галерэі, дзе яны вывешаны, за межы адной канкрэтна ўзятай краіны, урэшце, нават за межы самой свядомасці, туды, дзе ўладарыць адно неўтаймоўная чалавечая фантазія і творчы Дух...

Дзіўна, але падчас адкрыцця выставы я гэтак і не пачуў з вуснаў выступоўцаў слова "глабалізацыя". Дзіўна, бо акурат так, мне здаецца, і магчыма было б вызначыць філасофію выставы ў цэлым — глабалізацыя па-мастацку... І неяк міжволі ўспомніліся словы аднаго з "прасунутых" знаёмых літаратараў адносна таго, што абавязаны ведаць у сучасным свеце творчы чалавек: ён мусіць ведаць англійскую мову, павінен мець выхад у Інтэрнет і рыхтавацца да глабалізацыі. Гэта — непазбежнасць.

**Мікола ЧЭМЕР.**



НА ЗДЫМКАХ: падчас адкрыцця выставы выступае прарэктар БДУ Алег Яноўскі; "Ну, гэта сапраўды мастацтва XXI стагоддзя!" (з эмоцыяў гледачоў); "Рэбры ваўкоў" польскага графіка Пшэмыслава Тышкевіча; "Анёл Любові" літоўскага мастака Марыуса Пекураса.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Новыя кнігі

# Дапаможнік па сусветнай культуры




Сёння, на мяжы стагоддзяў і тысячагоддзяў, высокаадукаваны і культурны чалавек здольны лепш чым калі вырашаць складаныя праблемы сацыяльна-эканамічнага і духоўнага жыцця грамадства. У падрыхтоўцы і выхаванні такога чалавека вялікае значэнне мае творчае засваенне багатай гісторыка-культурнай спадчыны, напрацаванай чалавецтвам за многія тысячагоддзі развіцця. Будучы спецыяліст павінен добра арыентавацца ў пытаннях станаўлення і працякання сусветнага культурнага працэсу, разумець узаемасувязь і ўзаемаўплыў розных сфер культуры ў пэўны гістарычны перыяд, мець шчырую павагу да іншаэтнічных культур, традыцый розных народаў свету.

Гэтыя праблемы знайшлі сваё адлюстраванне ў кнізе кандыдата гістарычных навук, вядучага навуковага супрацоўніка Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны Эдуарда Дубянецкага "Сусветная культура: Ад старажытнасці да нашых дзён. Папулярны энцыклапедычны даведнік". (Мн.: Беларуская энцыклапедыя, 2001. — 240 с.: іл.).

У даведніку раскрываецца гісторыя сусветнай культуры, даецца характарыстыка асаблівасцяў яе развіцця на розных этапах і ў розных рэгіёнах свету. Яе матэрыялы ў храналагічным плане ахопліваюць перыяд ад першабытнага грамадства да канца XX стагоддзя, а ў геаграфічным абсягу — амаль усе кантыненты і буйныя рэгіёны планеты. Спецыяльныя раздзелы прысвечаны аналізу гісторыка-культурнага развіцця першабытнага грамадства, першых цывілізацый свету (Месапатамія, Егіпет, Індыя, Кітай), выяўленню спецыфікі сусветнай культуры ў перыяды антычнасці і сярэднявечча, новага і найноўшага часу (Старажытная Грэцыя, Старажытны Рым, Японія, Візантыя, дакалумбавая Амерыка, Заходняя Еўропа, Злучаныя Штаты Амерыкі).

У адпаведнасці з праблемна-тэматычным прынцыпам выкладання матэрыялу ў кожным раздзеле асвятляюцца пытанні развіцця выяўленчага мастацтва, архітэктуры, літаратуры, тэатра, навукі і адукацыі, паказваюцца адметныя рысы рэлігіі і міфалогіі, філасофіі і права, побыту і нораваў людзей. Выданне багата ілюстравана каляровымі рэпрадукцыямі мастацкіх твораў, партрэтамі выдатных дзеячаў сусветнай культуры, выявамі міфалагічных персанажаў, архітэктурных помнікаў, узораў адзення і інш.

Пры падрыхтоўцы кнігі быў выкарыстаны вопыт выкладання аўтарам курса "Гісторыя сусветнай культуры" на факультэце народнай культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка. Гэта выданне стане карысным дапаможнікам па сусветнай культуры для выкладчыкаў і навучэнцаў школ, каледжаў, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў пры вывучэнні курсаў па гісторыі сусветнай культуры, сусветнай мастацкай культуры, культаралогіі і інш., а таксама для ўсіх, хто цікавіцца пытаннямі сусветнага культурна-гістарычнага працэсу.

Даведнік, тыраж якога складае 3 тыс. экз., можна набыць у кніжным магазіне "Энцыклапедыя" (Акадэмічная, 15а), дзе ён прадаецца па сабекошце, і ў іншых кнігарнях. Кантактныя тэлефоны выдавецтва БелЭН: 284-25-48; факс 284-10-96.

**Станіслаў ПАЛЕСКІ.**

# "Асветнікі зямлі Беларускай"

У кнізе "Асветнікі зямлі Беларускай. Энцыклапедычны даведнік" (Мн.: Беларуская энцыклапедыя, 2001, 496 с.: іл.) сабрана цэлае сузор'е прадстаўнікоў філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі ад X да пачатку XX стагоддзя. Гэта — своеасаблівы экскурс у складаную гісторыю фарміравання беларускай нацыі, яе культуры і дзяржаўнасці, выкладзены ў біяграфіях яе выдатных прадстаўнікоў. Тут змешчаны жыццяпісы дзяржаўных і рэлігійных дзеячаў, філосафаў і педагогаў, вучоных розных галін навукі, выдаўцоў, музыкантаў, мастакоў, краязнаўцаў, удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху — усіх, хто сцвярджаў аўтарытэт краіны і яе народа, рабіў свой важкі ўклад у скарбонку нацыянальнай і сусветнай культуры, ствараў падмурак дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі. Сярод іх Ефрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі, Сымон Будны, Мікола Гусоўскі і Васіль Цяпінскі, Леў Сапега і Ягайла, Пётр Мсціславец і Францыск Скарына, Георгій Канінскі і Іасафат Кунцэвіч, Тадэвуш Касцюшка і Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Ігнат Канчэўскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі і шмат іншых.

Падставай для ўключэння пэўнага дзеяча ў гэтае выданне з'яўляўся факт яго нараджэння на этнічнай тэрыторыі краіны, незалежна ад таго, дзе адбывалася яго станаўленне як асобы, дзе праходзіла яго дзейнасць, якому народу ці краіне пайшлі на карысць яго думкі і справы. У роўнай ступені гэта адносіцца і да тых дзеячаў, якія хоць і не былі ўраджэнцамі Беларусі, але значную частку свайго жыцця правялі менавіта на яе зямлі, плённа развівалі яе навуку, культуру, неслі асвету яе народу і праз гэта заслужылі яго ўдзячнасць, набылі сабе вядомасць. Апрача апісання жыццёвага і творчага шляху, у артыкулах аналізуецца светапогляд пэўнай асобы, называюцца асноўныя друкаваныя і рукапісныя працы, жывапісныя палотны, адкрыцці і вынаходніцтвы.

Першая спроба пазнаёміць грамадскасць краіны з гісторыяй філасофскай і грамадска-палітычнай думкі на Беларусі ў біяграфіях яе прадстаўнікоў была зроблена выдавецтвам некалькі гадоў назад у зборніку "Мысліцелі і асветнікі Беларусі" (Мн., 1995). Чытач станоўча ўспрыняў кнігу, яна неўзабаве разышлася і стала рарытэтам. У выніку наспелай неабходнасці яе перавыдання. Супрацоўнікі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" за аснову гэтай перапрацаванай і дапоўненай кнігі ўзялі большасць матэрыялаў з папярэдняга выдання і значна дапоўнілі іх новымі. Усяго ў даведніку змешчана больш за 750 персаналій. Зменена таксама структура кнігі — у ёй строга вытрыманы энцыклапедычны прынцып алфавітнага размяшчэння артыкулаў.

Выданне разлічана на навучэнцаў, студэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі, філасофіі, развіцця грамадскай думкі і асветы на Беларусі. Тыраж кнігі 3 тыс.экз. Яе можна набыць у кніжным магазіне "Энцыклапедыя" (Акадэмічная, 15а) і ў іншых кнігарнях. Кантактныя тэлефоны выдавецтва БелЭН: 284-25-48, факс 284-10-96.

**Станіслаў ПАЛЕСКІ.**

Цікава ведаць

## Машына праектуе машыну. Трыумф або пачатак канца?

Двое амерыканскіх даследчыкаў з Масачусецкага тэхналагічнага інстытута Ход Ліпсан і Джордан Полак стварылі першую ў сваім родзе аўтаматызаваную камп'ютэрную сістэму, здольную распрацаваць элементарнага робата.

Усё, што патрабуецца ад чалавека, — паставіць канкрэтную задачу. Пакуль што яна была надзвычай простая: стварыць канструкцыю, здольную перамяшчацца ў гарызантальнай плоскасці. Зразумела, у задачу камп'ютэра ўваходзіла не толькі канструяванне, але і непасрэдна вытворчасць дадзенай машыны. З чым ён выдатна і справіўся. Спачатку па спецыяльна распрацаванай тэхналогіі былі створаны тысячы розных варыянтаў рухомых канструкцый, пасля чаго камп'ютэр выбраў аптымальны варыянт і адправіў адпаведную схему на прыстасаванне, якое і скампанавала элементарны механізм, які можа перамяшчацца. Знешне маленькія пластмасавыя робаты нагадваюць цацачныя, застаецца толькі ўставіць маторчык. Аднак на самай справе значнасць гэтага дасягнення складана пераацаніць. Упершыню чалавеку ўдалося навучыць машыну выраблядь другую машыну без прамога ўмяшальніцтва звонку.

У якасці бліжэйшых перспектыў гэтага дасягнення, па словах Хода Ліпсана, — "узнікненне новай індустрыі, у якой аўтаматычна, без інжынераў і дарагога абсталявання, будуць праектавацца і вырабляцца простыя робаты для выканання пэўных відаў работ, такіх, як мыццё падлогі або зборка аўтамабіляў". Аднак гэта — толькі пачатак. Ужо стаў рэальнасцю першы ў свеце чэмпіянат па футболе паміж камандамі робатаў. У хуткім жа часе яны навучацца не толькі выкарыстоўваць штучны інтэлект для гульні ў футбол (у шахматы чалавека ўжо абыгралі), але і вырабляць сабе падобных. Паўстае пытанне: што спыніць машыны, скажам, гадоў праз сто ад таго, каб адчуць сябе самадастатковымі і напасці на людзей? Як бы фантастычна гэта цяпер ні гучала, усё можа ісці менавіта да гэтага... Вы так не лічыце?

## У паход за пазазямным розумам

Адразу тры праграмы пошуку пазазямных цывілізацый нядаўна распачаты ў ЗША. Відаць, стаміўшыся ад радыёпраслухоўвання Сусвету, астраномы звярнуліся да оптыкі, назваўшы гэты комплекс аптычным.

Адна з праграм праводзіцца вучонымі Гарвардскага універсітэта. Яна прадугледжвае адсочванне імпульсаў-успышак высокай яркасці, якія доўжацца ўсяго некалькі мільярдных доляў секунды. Другая праграма намечана ў абсерваторыі Каліфарнійскага універсітэта ў Берклі і будзе ажыццяўляцца на базе поўнасцю аўтаматызаванага тэлескопа, які кругласутачна азірае неба і аўтаматычна апрацоўвае даныя назіранняў, фіксуючы адхіленні. Нарэшце, трэцяя праграма пошуку пастаўлена ў тым жа універсітэце і заснавана на выяўленні сігналу пастаяннага характару дастатковай яркасці і толькі аднаго колеру. Касмолагі гэтых навуковых цэнтраў лічаць, што ў межах пяцідзесяці светлавых гадоў у Сусвеце існуюць сотні сонцападобных зорак з планетамі, дзе і трэба шукаць "братоў па розуму". Для параўнання маштабаў пошуку нагадаем, што бліжэйшая да Зямлі зорка знаходзіцца на адлегласці 4,3 светлавога года.

## Сейф за пазухай

Цяпер аматары экстрэмальных відаў спорту (веласіпед, веславанне, горныя лыжы, сноўбард, скалалазанне), а таксама рыбалкі і прагулкі на яхце могуць не расставацца са сваім мабільным тэлефонам без усякай рызыкі для апошняга. Яго захавае персанальны партатыўны сейф. Ён лёгкі, супрацьударны, воданепранікальны. Сейф, створаны амерыканскімі спецыялістамі, абараняе тэлефон ад пяску і пылу, не тоне і дазваляе чуць званок пры зачыненых дзверцах.

## І ніякіх дэзадарантаў!

Хутка наступіць няпростая пара для вытворцаў дэзадарантаў: у продажы з'явіцца адзенне, якое само будзе ліквідоўваць непрыемныя пахі. Матэрыял, распрацаваны амерыканскімі спецыялістамі, валодае здольнасцю процістаяць размнажэнню бактэрый. Сакрэт — у спецыяльнай слаёнай прапітцы. Падчас мыцця верхні слой замяняецца наступным, які валодае тымі ж якасцямі. З гэтага валакна плануецца вырабляць медыцынскія халаты, спартыўнае адзенне, дываны і нават самыя звычайныя шкарпэткі.

## Дзіва-карова

Дзіва-карову спрабуюць вывесці аргенцінскія вучоныя з універсітэта Буэнас-Айрэса, дзе вядуцца работы па кланіраванні буронак. Першы клон спецыялісты спадзяюцца атрымаць ужо ў гэтым годзе. Малако ад "дасканалай" каровы будзе багатае асаблівым пратэінам, здольным падняць на ногі любога хворага-інфарктніка. А яшчэ адна група даследчыкаў працуе ў Нацыянальным інстытуце тэхналогіі жывёлагадоўлі, каб высветліць, ці небяспечная гэтая задума.

## Ноч адкрытых дзвярэй

Ва ўсім свеце наведванне буйных музеяў, галерэй, выстаў каштуе немалых грошай. Таму перыядычна там ладзяць дні адкрытых дзвярэй, гэта значыць бясплатнага наведвання асяродкаў культуры. А вось нядаўна ў Берліне правялі ўпершыню ў гісторыі ноч адкрытых дзвярэй. Улады горада аб'явілі напярэдадні нядзелі свабодны ўваход у 50 буйнейшых музеяў менавіта ў начны час. І людзі адгукнуліся! Усю ноч ішлі экскурсіі, лекцыі, канцэртныя праграмы. Сорак пяць тысяч чалавек палічылі лепш наведаць такое культурне мерапрыемства, чым спаць. Асаблівую цікавасць яны праявілі да Музея Старажытнага Егіпта, Музея крыміналістыкі, Цэнтра сусветных культур, Батанічнага саду. Усю ноч па Берліне курсіравалі аўтобусы, якія развозілі па дамах удзельнікаў гэтай ночы музеяў. Гарадскія ўлады маюць намер зрабіць падобныя начныя мерапрыемствы пастаяннымі — пра кожнае загадзя паведаміць прэса.

## Як змагацца з медузамі

Ужо каля пятнаццаці гадоў Чорнае мора церпіць ад нябачанага размнажэння медуз. Цяпер іх агульную біямасу ацэньваюць у 700 мільёнаў тон, што практычна ўдвая больш за сумарную вагу ўсяго чалавецтва.

Амерыканскія акіянолагі прапануюць пасяліць у Чорным моры адзін від рыб, які водзіцца ля берагоў ЗША і харчуецца медузамі. Такая рыба можа з'есці за суткі масу медуз, якая ў 24 разы перавышае ўласную вагу рыбы. Але скептыкі хвалююцца, што ўсяленне новага віду рыб пашкодзіць экасістэме мора.

## Антыбіётыкі з балота

Хронікі іспанскіх і англійскіх мараплаўцаў XVI стагоддзя паведамляюць, што, выпраўляючыся ў доўгія падарожжы, маракі запасаліся пітной вадой, узятай з балота, а не з ракі. Англійскія вучоныя вырашылі праверыць гэтыя звесткі. Аказалася, што вада некаторых балот утрымлівае антыбіётыкі, якія стрымліваюць развіццё мікробаў і мікраводарасцей, што псуюць смак пітной вады.

***(Падрыхтавана на матэрыялах замежнага друку).***

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі —36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Мікола ГІЛЕВІЧ.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №5518
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 12.9.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.